# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№6 (253)

чэрвень 2023

БАЦЬКАЎШЧЫНА

Інфармацыйны бюлетэнь • Супольнасць беларусаў свету "Бацькаўшчына"


## 30 гадоў таму ў Мінску прайшоў першы з'езд беларусаў свету

8 ліпеня 1993 года ў Мінску ў будынку Тэатра оперы і балета пачаў працу Першы з'езд беларусаў свету. Беларусы замежжа, якія доўгі час успрымаліся дзяржавай як калабаранты і здраднікі, змаглі нарэшце прыехаць на Радзіму. Паводле ўспамінаў удзельнікаў з'езда, а іх было больш за тысячу, гэта было вялікае свята, якое давала надзею на лепшую будучыню Беларусі. Як атрымалася ў часы без інтэрнэту і мабільнай сувязі сабраць такую вялікую колькасць людзей з розных куткоў свету? Як праходзіла падрыхтоўка да з'езда? Хто ўзяў на сябе фінансаванне?

Старонка 4


НЕ ВАЙНЕ!

ВЫ МОЖАЦЕ ДАПАМАГЧЫ





# Алена Макоўская: БЕЛАРУСЫ Ў БЕЛАРУСІ І ЗА МЯЖОЙ – АДНО ГРАМАДСТВА, ПАДЗЕЛЕНАЕ МЕЖАМІ

У гэтыя дні трыццаць гадоў таму, у 1993 годзе, у Мінску адбыўся першы З'езд беларусаў свету, і падавалася, што дзяржава зменіць сваё стаўленне да эміграцыі. Гэта цяпер мы ведаем, колькі карысці прынеслі беларусы свету – пачынаючы ад выбітнага навукоўца Барыса Кіта і заканчваючы хакеістам Уэйнам Грэцкі, дзед якога ў свой час з'ехаў з Гарадзенскай губерні. А да таго часу ўсе эмігранты ў СССР лічыліся "ворагамі народа".

Цяпер, у сучаснай Беларусі, да "новай эміграцыі" стаўленне не лепшае. Для ўлады яны "збеглыя" і "здраднікі". Дый "старую" дыяспару ўлада таксама не шануе. Прынамсі, кіраўніцтва Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына" пасля праведзеных у іхператрусаў было вымушана з'ехаць за мяжу.

Як цяпер успрымаецца беларуская дыяспара, ці ёсць розніца паміж "новай" і "старой" эміграцыяй, і як гэта – ці не ўсё жыццё працаваць з беларусамі замежжа, а потым самой стаць беларускай замежжа? Пра ўсё гэта ў гутарцы з **кіраўніцай МГА ЗБС "Бацькаўшчына" Аленай Макоўскай.**

**– Алена, у гэтыя дні ў 1993-м быў першы З'езд беларусаў свету. Вы распавядалі ў інтэрв'ю 1997 года, што тады "ў газетах на поўным сур'ёзе абмяркоўвалася пытанне, ці ладзіць з'езд наогул. Гэта была ломка псіхалогіі і менталітэту, бо доўгі час уся савецкая ідэалагічная машына казала, што беларусы замежжа – "ворагі"… Ці можна цяпер акрэсліць, як змянілася стаўленне да дыяспары, калі не ў плане дзяржавы, дык у плане грамадства?**

– Давайце ўсё ж падзелім пытанне. Стаўленне дзяржавы да дыяспары ніколі не было простым, бо ўлада заўжды падзяляла беларусаў замежжа на лаяльных да сябе і не. І нават калі ў замежжы дыяспаральныя асяродкі розных палітычных поглядаў пачыналі нейкае ўзаемадзеянне паміж сабой, беларуская ўлада цвёрда трымалася сваіх падыходаў. Для гэтага дастаткова паглядзець на склады кансультатыўных саветаў па пытаннях дыяспары, якія спачатку дзейнічалі пры Міністэрстве культуры, а пасля і пры Міністэрстве замежных спраў.

З пазітыўнага на тыя часы можна адзначыць толькі прыняцце Закона аб беларусах замежжа ў 2014 годзе, дый і тое, нам спатрэбілася больш за 10 год, каб гэты закон, хаця і ў вельмі спрошчаным выглядзе, быў прыняты. Дзяржаўная ж праграма, якую мы таксама інспіравалі, была слаба падмацаваная фінансамі і насіла выключна этнаграфічны характар.

Важна адзначыць, што беларуская дыяспара ніколі не разглядалася ўладамі стратэгічна, адпаведна, ёй не надавалася шмат увагі на дзяржаўным узроўні.

Працяг на старонцы 2.

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# Алена Макоўская: беларусы ў Беларусі і за мяжой – адно грамадства, падзеленае межамі

Працяг са старонкі 1.

Нашыя прапановы па адкрыцці сталага аддзела ў Акадэміі навук па вывучэнні дыяспары, і асобнай структуры ў складзе МЗС не знаходзілі падтрымкі. У працэсе працы над праектам закона ў чыноўнікаў дамінавала даволі правінцыйнае местачковае меркаванне: "навошта нам іх падтрымліваць, яны ж не плацяць нам падаткі", хаця, паводле розных ацэнак, па-за межамі Беларусі на тыя часы пражывалі да 3 мільёнаў беларусаў.

Дзеячы беларускага замежжа, іх дасягненні, роля для беларускай навукі і культуры практычна цалкам адсутнічалі на старонках беларускіх падручнікаў і ў інфармацыйным полі. Увогуле дамінавала ідэалагічная канцэпцыя: беларусы жывуць толькі ў Беларусі, а калі чалавек з'ехаў – ён згублены для дзяржавы. Для большасці грамадства ў краіне беларусаў замежжа таксама практычна не існавала, вывучэннем дыяспары, адстойваннем яе інтарэсаў у Беларусі займаліся выключна грамадскія арганізацыі. І без сціпласці магу адзначыць ролю "Бацькаўшчыны" ў гэтым кірунку, якая правяла сем з'ездаў беларусаў свету, выдала 45 найменняў кніг, прысвечаных жыццю і дзейнасці беларусаў замежжа ў адмысловай серыі, пастаянна штурмавала міністэрствы з прапановамі і канцэптуальнымі дакументамі, прыводзячы ў прыклад багаты пазітыўны вопыт іншых дзяржаў у працы з дыяспарамі.

Падзеі 2020 года змянілі ўсё. Беларуская дыяспара – гэта люстэрка беларускага грамадства ў Беларусі. І калі беларусы ў краіне сталі абуджацца, то практычна рэхам тыя ж працэсы сталі адбывацца ў беларускім замежжы. Людзі, якія дзесяцігоддзямі жылі сваім жыццём у розных краінах свету, сталі праяўляць грамадскую актыўнасць, далучацца да існых суполак ці ствараць свае. Першая такая хваля салідарнасці і актыўнасці пракацілася ў кавідныя часы, калі трэба было арганізоўваць дапамогу для Беларусі. Другая, непараўнальна мацнейшая, хваля актыўнасці – гэта 2020 і 2021 гады.

Правядзенне экзіт-полаў у замежжы, акцыі пратэстаў, звароты да ўрадаў сваіх краін, флэшмобы, дапамога пацярпелым ад гвалту сілавікоў – усе гэта з'явілася на старонках практычна ўсіх незалежных медыяў. А пасля – масавы ад'езд беларусаў.

Так, цяпер грамадства ведае пра беларусаў замежжа, але мне падаецца, што стаўленне вызначаецца найперш палітычнымі поглядамі чалавека. І зноў жа, гэтыя веды вельмі часта абмяжоўваюцца цяперашняй хваляй. Нават новыя эмігранты ў большасці сваёй нічога не ведаюць пра папярэднікаў і лічаць сябе першапраходцамі.

**– Кажуць, што ніколі не было такой плыні эміграцыі з Беларусі, як цяпер – калі, напэўна, лічыць пачатак ХХ стагоддзя. Ці стасуюцца паміж сабою плыні эміграцыі? Ці можна ўвогуле падзяляць беларусаў на "старую" і "новую" дыяспары?**



Кіраўніца ЗБС "Бацькаўшчына" Алена Макоўская і старшыня Вялікай Рады ЗБС "Бацькаўшчына" Ніна Шыдлоўская ў час З'езда беларусаў свету ў 2017 годзе

– Існуе нават меркаванне, што сённяшні масавы адток беларусаў з краіны падобны да паваеннай хвалі эміграцыі. Не ведаю, наколькі гэта карэктна. У любым выпадку сённяшняя сітуацыя яшчэ стане аб'ектам для вывучэння і аналізу. Мы да гэтага часу не ведаем дакладных лічбаў, колькі ж беларусаў выехала.

Адносна кантактаў, то ў 2022 годзе мы сустракаліся з сітуацыяй, калі беларусы ў некаторых гарадах, да прыкладу, Польшчы стваралі свае арганізацыі, шукалі выхаду на мясцовыя ўлады, змагаліся з арганізацыйнымі праблемамі і не ведалі, што ў горадзе ўжо гадамі, калі не дзесяцігоддзямі, існуе беларуская суполка. Цяпер, натуральна, кантакты ёсць: у кожнай краіне, як і асобна па гарадах існуюць тэлеграм-каналы, групы ў ФБ, дзе людзі дзеляцца інфармацыяй, запрашаюць на розныя беларускія мерапрыемствы, есць платформы, дзе можна даведацца пра беларускі бізнес у замежжы. Мы, да прыкладу, стварылі адмысловы тэлеграм-бот, з якога можна даведацца пра беларускія падзеі як па ўсім свеце, так і ўласна ў краіне пражывання.

Сёння можна канстатаваць, што беларуская актыўнасць у замежжы не на такім узроўні, як была ў 2021 і 2022 гадах. У прынцыпе, гэта натуральна і характэрна для дыяспары любой краіны. Думаю, любая значная падзея ў Беларусі ці звязаная з Беларуссю зноўку выкліча хвалю грамадскай актыўнасці.

Таксама трэба браць пад увагу, што беларусы апошняй хвалі выязджалі як з палітычных, так і з эканамічных прычын, і нават выезд з палітычных прычын не робіць чалавека аўтаматычна аматарам беларускасці ці дэмакратычных каштоўнасцяў, а значыць, чалавек не будзе наведваць беларускія мерапрыемствы ў замежжы і будзе хутчэй падпісаны на расійскі "Дождь", чым на "Нашу Ніву", "Свабоду" ці "Будзьму".

Нездарма менавіта эканамічная плынь беларускай эміграцыі пачатку ХХ стагоддзя падверглася найбольш лёгкай асіміляцыі, чаго нельга сказаць ужо пра палітычную паваенную эміграцыю, калі ў замежжы паўсталі дзясяткі беларускіх арганізацый, цэркваў, выдавецтваў, шмат з якіх дзейнічаюць да гэтага часу.

Хаця трэба адзначыць, што для часткі беларусаў пераезд стаў штуршком да цікавасці да беларускай мовы і культуры, праяўлення грамадскай актыўнасці. У сувязі з гэтым востра стаіць пытанне культурна-асветніцкіх пляцовак, дзе людзі маглі б вучыцца самі і навучаць дзяцей па-беларуску, даведвацца пра беларускую гісторыю.

Увогуле ўсё гэта – прадмет для далейшага вывучэння, складання партрэта дыяспары. Ужо сёння даследчыкі эміграцыі кажуць пра тое, што шмат якія палітычныя крокі беларусаў замежжа аналагічныя таму, што рабілі палітычныя цэнтры ў замежжы пасля 1918 года ці пасля Другой сусветнай вайны. Вельмі хочацца верыць і спадзявацца, што мы ўсё ж рухаемся не па замкнёным коле, і перспектывы гэтай плыні эміграцыі будуць лепшымі.

**– Зноў жа, пра колькасць з'ехалых беларусаў. Шмат хто з іх дапамагае ў эміграцыі сябрам і знаёмым, багата з нашых суайчыннікаў валанцёраць у падтрымку Украіны, беларускі бізнес пачынае ствараць канкурэнцыю бізнесам "мясцовым". Ці кажа гэта пра тое, што "дыяспара" ўжо –занадта абмежавальнае слова для беларусаў у замежжы? Ці не ёсць беларусы ў замежжы ўжо не дыяспарай, а беларус-**

Беларускія мерапрыемствы па ўсім свеце @Budzma_razam_bot

**кай супольнасцю?**

– Я ведаю дастаткова шмат беларусаў, якія не лічаць сябе дыяспараў, я сама належу да іх ліку. Азначэнне "экспаты" нешта таксама не прыжываецца…

Магчыма, цяпер проста не час для фармулёвак і вызначэнняў, бо гэта азначае, што мы нібыта ўжо змірыліся з ад'ездам і прынялі яго, а гэта не ёсць свядомым выбарам большасці беларусаў. Таму я б не спяшалася з фармулёўкамі. Дарэчы, нядаўна пачула меркаванне кагосьці з палітолагаў, што беларусаў выехала так шмат, і яны трымаюцца адной супольнасцю, таму асіміляцыя практычна немагчымая. Мне хочацца ў гэта верыць, бо сапраўды – ніводная плынь беларускай эміграцыі не адбывалася ў часы такога развіцця тэхналогій і сродкаў камунікацыі.

Але, на жаль, так гэта ці не, мы здолеем ацаніць толькі гадоў праз пяць ці дзесяць. Хаця спадзяюся, што не давядзецца гэтага рабіць, бо мы будзем ужо ў Беларусі.

**– Раней у тым жа інтэрв'ю вы казалі, што дыяспара – гэта "наша мяккая сіла, нашы іміджавыя цэнтры", якімі дзяржава не карыстаецца. Цяпер стаўленне да дыяспары ў дзяржавы, як у СССР – як да "збеглых" і "ворагаў". Ці мажлівая нармалізацыя адносінаў?**

– У гэтай сувязі я прыгадваю адну карцінку з сеціва: паліцэйскі б'е чалавека, подпіс пад карцінкай – "рэпрэсіі", паліцэйскі трымае дубінку над галавой – подпіс "лібералізацыя". Але дубінка застаецца ў руках паліцэйскага. Мне падаецца, што характар і сутнасць існай улады ў Беларусі не можа змяніцца, адпаведна даволі цяжка ўявіць сабе перадумовы падобнай нармалізацыі. Нават да 2020 года беларуская ўлада ставілася да беларусаў замежжа альтэрнатыўных поглядаў даволі падазрона і насцярожана, і тым больш не разглядала іх паўнавартаснымі партнёрамі любога дыялогу.

**– У свой час "Бацькаўшчына" прасоўвала ідэю "карты беларуса" – дакумента беларуса замежжа, кшталту "карты паляка". Цяпер ідзе размова пра паўнавартасныя "альтэрнатыўныя пашпарты" ўцекачам з Беларусі. Ці не падаецца вам, што вашая ідэя ажыццяўляецца незвычайным спосабам, і гэтая пашпарты ў будучым могуць стаць "пашпартам замежнага беларуса"?**




Уладзімір Макей на З'ездзе беларусаў свету ў 2017 годзе

– У "карту беларуса" мы закладалі зусім іншую ідэю. Карта мусіла спрыяць узмацненню сувязяў беларусаў замежжа з Беларуссю, даваць пэўныя прэферэнцыі беларусам – грамадзянам іншых краін у Беларусі дзеля таго, каб прыцягнуць іх велізарны патэнцыял у краіну, у яе эканоміку, культуру, навуку, адукацыю. Ідэя была – садзейнічаць росквіту Беларусі і яе трансфармацыі з дапамогай беларусаў замежжа. Нас натхніў вопыт іншых краін свету, якія змаглі з дапамогай сваіх дыяспар дабіцца значных поспехаў у абсалютна розных галінах.

Што датычна "альтэрнатыўных пашпартоў", то гэта, канечне, вельмі патрэбная рэч, асабліва для тых беларусаў, якія б хацелі мінімальна стасавацца з сённяшнімі беларускімі ўладамі і кантактаваць з амбасадамі. Але з прававога гледзішча гэтая ідэя падаецца не вельмі рэалістычнай, бо такія пашпарты павінны быць прызнаныя іншымі краінамі свету. Адпаведна ўстанова, якая будзе выдаваць гэтыя пашпарты, павінна быць праваможнай у вачах іншых дзяржаў, валодаць адпаведным адміністратыўным рэсурсам, мець магчымасць правяраць даныя і іншае. На сёння такім патэнцыялам і паўнамоцтвамі валодаюць толькі дзяржавы. Таксама пытанне, ад імя каго будуць заключацца пагадненні з дзяржавамі аб прызнанні такіх пашпартоў.

Мне падаецца, тут вельмі шмат розных прававых аспектаў, хаця сама ініцыятыва файная. Дарэчы, некалі Рада БНР выдавала пашпарты, якімі карысталіся яе дзеячы.

**– Якія праблемы вы бачыце ў "новай хвалі эміграцыі", і як новым эмігрантам захоўваць сваю ідэнтычнасць?**

– Першае, з чым мы сутыкнуліся, гэта тое, што "новая хваля" мала што ведае пра сваіх папярэднікаў, таму ігнаруе іх вопыт, напрацоўкі і здабыткі. Тут вельмі дапамаглі б супольныя мерапрыемствы як у асобных краінах, так і міжнародныя, якія б дазволілі абменьвацца вопытам і ведамі. Людзі ўсё роўна засяроджаныя на краінах свайго пражывання, а развіццё міжнародных кантактаў вельмі б спрыяла ўмацаванню беларускай супольнасці ў замежжы. Беларусы мінулых хваляў больш разумеюць патрэбу ў такой камунікацыі. Часам мы сутыкаемся з тым, што прадстаўнікі маладзейшага пакалення ўвогуле не ўсведамляюць патрэбу і важнасць такіх сустрэч.

Ідэя пра неабходнасць такіх пляцовак не раз гучала і ад прадстаўнікоў грамадскіх арганізацый, якія рэлакаваліся ў замежжа. Дарэчы, тут яшчэ адна праблема: як ідэнтыфікаваць іх, таму што гэта не арганізацыі беларускай дыяспары ў класічным разуменні, гэта менавіта грамадзянская супольнасць Беларусі, якая вымушана знаходзіцца ў замежжы. Яны не могуць афішаваць сваю дзейнасць па прычынах бяспекі, адпаведна ім бракуе камунікацыі з такімі ж беларускімі арганізацыямі і ініцыятывамі ў іншых краінах…

Адносна ідэнтычнасці – давайце сыходзіць з таго, што асіміляцыя непазбежная, яна будзе існаваць, і гэта зноўку натуральны працэс для любой дыяспары. Але тэмп гэтай асіміляцыі можа быць запаволены. Звычайна ў ролі цэнтра падтрымкі ідэнтычнасці выступаюць дзяржавы, якія праводзяць адмысловую палітыку падтрымкі нацыянальнага жыцця суполак, з'яўляюцца цэнтрамі прыцягнення для сваіх замежных суайчыннікаў, прапаноўваючы пэўныя прэферэнцыі ў вядзенні бізнесу, у адукацыі і іншых сферах, ладзяць профільныя сумесныя мерапрыемствы. Кожны з бакоў такога ўзаемадзеяння атрымлівае заўважныя бонусы.

Сёння беларусы замежжа апынуліся ў сітуацыі "без дзяржавы". У аналагічнай сітуацыі былі беларусы ў эміграцыі пасля Другой сусветнай вайны, якія павінны былі разлічваць выключна на сябе. Мы цудоўна памятаем страхі таго паваеннага пакалення эміграцыі, прадстаўнікі якога вельмі асцярожна ставіліся да беларусаў, што прыехалі ў 1990-я гады, падазраючы ў іх агентаў КДБ. Сённяшняя плынь эміграцыі мае тыя ж перасцярогі. Таму мы зноў застаемся сам-насам з сваімі праблемамі, у тым ліку і па захаванні ідэнтычнасці, і можам спадзявацца толькі на сябе.

Таму тут важна захоўваць і развіваць беларускую мову, вучыць дзяцей таму, што яны беларусы. Па магчымасці аб'ядноўвацца і ствараць беларускамоўныя гурткі і школы, як анлайн, так і афлайн, цікавіцца беларускім жыццём, чытаць кнігі беларускіх пісьменнікаў і слухаць нашую музыку, удзельнічаць у беларускіх мерапрыемствах, якіх зараз вельмі шмат і інтэлектуальных, і музычных, і літаратурных.

Але важна таксама не дыстанцыявацца ад культур тых народаў, сярод якіх мы зараз жывем, а вучыцца і браць ад іх тое карыснае, што спатрэбіцца нам для жыццё ў новай Беларусі. І канечне ж, знаёміць іх з беларускай культурай, фарміраваць імідж гэтай другой, альтэрнатыўнай Беларусі. Вельмі важна ў гэтым кірунку таксама супольнічаць з урадамі, грамадскімі і палітычнымі сіламі краін, якія прынялі беларусаў, міжнароднымі арганізацыямі. Паколькі мы не можам разлічваць на сваю краіну, трэба ствараць партнёраў і спрыяльнікаў сярод іх.

**– І, урэшце, самі нечакана стаўшы "дыяспарай" – што цікавага вы ўбачылі ў гэтым статусе? Што, можа, было для вас адкрыццём у стаўленні дыяспары да Беларусі, ці Беларусі да дыяспары, калі вы сталі той самай дыяспарай?**

– Па праўдзе, першая думка была пра злы жарт лёсу. Мы столькі год працавалі з беларускай дыяспарай і для яе і раптоўна самі папоўнілі лік беларусаў замежжа, прычым не ў самай лёгкай форме з падрыхтаваным і запланаваным пераездам. У нашым з Нінай Шыдлоўскай выпадку гэта была хутчэй эвакуацыя, чым пераезд. Тым не менш становіцца зразумела, чаму чалавечая цывілізацыя існуе да гэтага часу (усміхаецца), нягледзячы на ўсе выпрабаванні.

Было цікава назіраць за хуткасцю нашай адаптацыі да новых умоваў. А самае галоўнае, як толькі ты ўжо хаця б крыху замацоўваешся, то адразу пачынаеш аднаўляць кантакты, абменьвацца інфармацыяй, дзяліцца новымі ведамі, і праз некаторы час ты ўжо адчуваеш дастаткова моцы, каб дапамагаць іншым.

На дыяспаральных сустрэчах было адчуванне таго, што твой статус змяніўся, гэта было і сумна, і цікава адначасна, – вось гэтае ўсведамленне сябе ў новай ролі. Хаця паўтаруся, дыяспарай мы сябе не лічым і ўспрымаем нашае знаходжанне тут як часовае.

Але ніякай змены ў стаўленні да Беларусі не было. Як ужо казала вышэй, беларусы ў Беларусі і за мяжой – гэта адно грамадства, падзеленае мяжамі. Як у Беларусі людзі стамляюцца і часам сыходзяць ва ўнутраную эміграцыю, ці ўвогуле адыходзяць ад грамадскай дзейнасці, засяроджваюцца на побыце, так і тут. Я не падтрымліваю вось гэтага дзялення і высвятлення, хто павінен адказваць за змены ў Беларусі, беларусы, што ў Беларусі, ці тыя, хто з'ехаў. Усё роўна беларускія праблемы вырашаць толькі нам самім, і прычым супольна.

Сяргей Салаўёў, novychas.online

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# 30 ГАДОЎ ТАМУ Ў МІНСКУ ПРАЙШОЎ ПЕРШЫ З'ЕЗД БЕЛАРУСАЎ СВЕТУ

8 ліпеня 1993 года ў Мінску ў будынку Тэатра оперы і балета пачаў працу Першы з'езд беларусаў свету. Беларусы замежжа, якія доўгі час успрымаліся дзяржавай як калабаранты і здраднікі, змаглі нарэшце прыехаць на Радзіму. Паводле ўспамінаў удзельнікаў з'езда, а іх было больш за тысячу, гэта было вялікае свята, якое давала надзею на лепшую будучыню Беларусі. Як атрымалася ў часы без інтэрнэту і мабільнай сувязі сабраць такую вялікую колькасць людзей з розных куткоў свету? Як праходзіла падрыхтоўка да з'езда? Хто ўзяў на сябе фінансаванне? Распавядаем у артыкуле. Сваімі ўспамінамі падзялілася ўдзельніца тых падзей, кіраўніца ЗБС "Бацькаўшчына" з 2009-га па 2021 год Алена Макоўская.



Удзельнікі Першага з'езда беларусаў свету

Арганізатарам з'езда выступіла Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына", створанае ў 1990 годзе "дзеля захавання беларускай прысутнасці ў свеце, яднання ў адзіную супольнасць усіх беларусаў".

"На Сход, на Усенародны Сход!" – гэтыя словы Янкі Купалы былі напісаны на франтоне Тэатра оперы і балета, дзе праходзіў з'езд. Ён сапраўды стаўся ўсенародным форумам, на які з'ехаліся беларусы з Англіі, Аргенціны, Аўстраліі, Аўстрыі, Бельгіі, Германіі, ЗША, Кыргызстана, Казахстана, Канады, Латвіі, Літвы, Малдовы, Польшчы, Расіі, Туркменістана, Узбекістана, Украіны, Францыі, Чэхіі, Швейцарыі і Эстоніі. Тры дні амаль тысяча дэлегатаў з Беларусі і замежжа і больш за 200 гасцей з'езда дзяліліся ўспамінамі, досведам, сваім бачаннем будучыні Беларусі, абмяркоўвалі праблемы развіцця ўзаемаадносінаў Беларусі з яе амаль чатырохмільёнай дыяспарай.

Народны пісьменнік Беларусі, прэзідэнт "Бацькаўшчыны" **Васіль Быкаў** адкрыў Першы з'езд. Другім выступаў старшыня Вярхоўнага савета Рэспублікі Беларусь **Станіслаў Шушкевіч**. Сярод дэлегатаў былі міністр замежных спраў **Пётр Краўчанка**, міністр інфармацыі і друку **Анатоль Бутэвіч**, народны паэт **Ніл Гілевіч**, адзін з найвядомейшых дзеячаў беларускага замежжа, рэдактар газеты "Беларус" **Ян Запруднік**, кіраўнік Беларускага інстытуту навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку **Вітаўт Кіпель**.

### Кім былі беларусы-эмігранты для ўлады да З'езда?

Савецкая ўлада пэўны час увогуле разглядала беларусаў за мяжой як варожы ёй элемент. Пазней з лаяльнымі да СССР беларусамі ўлады сталі кантактаваць праз беларускую секцыю Савецкага камітэта "За вяртанне на Радзіму" і Беларускае таварыства па сувязях з суайчыннікамі за мяжой, з 1955 года пачала выходзіць газета "За вяртанне на Радзіму" (з 1960 года – пад назвай "Голас Радзімы").

З тымі ж, хто за мяжой заставаўся беларусамі без прасавецкіх ілюзій, савецкая наменклатура не кантактавала і асцерагалася іх.

Тагачасны міністр замежных спраў Пётр Краўчанка згадвае ў мемуарах: "Мой папярэднік на пасадзе міністра Анатоль Гурыновіч настолькі не хацеў уступаць у кантакты з прадстаўнікамі беларускай эміграцыі, што, калі яны з'яўляліся ў клубе ААН для прыёмаў імя Дага Хамаршэльда, Гурыновіч хаваўся ад іх у курылцы. Былы партызан і разведчык, быў, як кажуць, звязаны па руках і нагах ідэалагічнымі путамі і з усіх сілаў стараўся быць незападозраным у „сумнеўных" сувязях за мяжой".

Пісьменнік Барыс Сачанка ў кнізе ўспамінаў піша, што "ў Беларусі амаль усіх, хто апынуўся за мяжою і не выракся роднай мовы, гаварыў і пісаў на ёй, з чыёйсьці лёгкай рукі ахрысцілі „бебурнацамі", гэта значыць беларускімі буржуазнымі нацыяналістамі".

### Як рыхтаваўся Першы з'езд беларусаў свету?

10 верасня 1990 года адбылася Устаноўчая канферэнцыя па арганізацыі Згуртавання беларусаў свету "Бацькаўшчына". Новая арганізацыя заяўляла, што яна ёсць "міжнароднай добраахвотнай грамадскай культурна-асветніцкай супольнасцю беларусаў і спрыяльнікаў беларускага народа на Бацькаўшчыне і ва ўсім свеце".

У прадмове да кнігі "Першы з'езд беларусаў свету" Ганна Сурмач, старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы З'езда, піша: "Летам 1992 года Беларусь наведала група нашых суродзічаў з амерыканскага горада Кліўленда. З іх удзелам 27 ліпеня адбылося паседжанне Рады ЗБС „Бацькаўшчына", дзе быў створаны Арганізацыйны камітэт па падрыхтоўцы сусветнага беларускага з'езда. Сустаршынямі Камітэта былі абраны прэзідэнт ЗБС Васіль Быкаў і ад дзяржавы – міністр замежных спраў Пётр Краўчанка. Для выканання канкрэтнай арганізацыйнай працы ЗБС стварыла Рабочую групу пад кіраўніцтвам сябра Рады Ганны Сурмач. У верасні 1992 года ў Кліўлендзе адбылася сустрэча беларусаў Паўночнай Амерыкі".

У снежні 1992 года прайшла сустрэча з прадстаўнікамі эміграцыі, якая ўтварылася пасля распаду СССР – Першы сход беларусаў блізкага замежжа.

Ганна Сурмач у даўнім інтэрв'ю "Народнай Волі" ўспамінала, што гэтая плынь эміграцыі мела свае балючыя пытанні: "На Сходзе абмяркоўвалася дапамога землякам у зонах ваенных і міжнацыянальных канфліктаў на Каўказе, у Сярэдняй Азіі, у Прыднястроўі, вяртанне на Бацькаўшчыну высокапрафесійных кадраў, якія былі засланы на працу ў розныя куткі Савецкага Саюза і пасля яго развалу засталіся без працы, вяртанне дамоў беларускіх вайскоўцаў, дапамога ў стварэнні беларускіх суполак і наладжванні іх дзейнасці, усталяванне пастаянных кантактаў з радзімай…

У той час і дзяржаўныя структуры Беларусі выказвалі намер падтрымліваць замежных суродзічаў і бралі ўдзел у працы Сходу. Такое адбывалася ўпершыню ў гісторыі Беларусі і давала надзею на будучыню".

Дзяржава падтрымала ідэю правядзення Першага з'езда беларусаў свету. Саўмін прыняў спецыяльную пастанову "Аб пытаннях дзейнасці ЗБС „Бацькаўшчына"", згодна якой усім міністэрствам, выканкамам і іншым урадавым структурам даручалася дапамагаць дзейнасці Згуртавання беларусаў свету.

### Грошы і візы

З беларусамі постсавецкай прасторы было прасцей – пасля вышэйзгаданага Сходу засталіся спісы людзей, якія згаджаліся прыехаць на радзіму яшчэ раз. А вось шмат каго з беларусаў заходняга свету насцярожвала перспектыва ехаць у Мінск, памятаючы пра ранейшае стаўленне ўлады. Але ў выніку эмігрантаў удалося пераканаць, што часы рэпрэсій засталіся ў мінулым. Незалежная беларуская дзяржава нават забяспечыла ўсім удзельнікам з'езда бясплатныя візы.

Частку выдаткаў па правядзенні Першага з'езда беларусаў свету ўзяла на сябе дзяржава па просьбе ЗБС: канцэрт, Купалле і святочныя нумары дзяржаўных газет. Частку склалі прыватныя ахвяраванні. Астатнюю суму ўнесла "Бацькаўшчына".

### Пра З'езд ад удзельнікаў

**Алена Макоўская** прыйшла ў "Бацькаўшчыну" адразу пасля заканчэння ўніверсітэта ў 1992 годзе, брала ўдзел у падрыхтоўцы Першага з'езда беларусаў свету. Старшыня Рады ЗБС (2001–

2009), кіраўніца "Бацькаўшчыны" з 2009-га па 2021 год.

"Першы з'езд беларусаў свету, безумоўна, быў значнай падзеяй, бо сведчыў пра ломку савецкіх стэрэатыпаў у стаўленні дзяржавы і грамадства да беларусаў замежжа, адкрыў для прадстаўнікоў беларускай дыяспары з Захаду шлях на Радзіму. Можна сабе толькі ўявіць, што адчувалі беларусы, якія жылі Беларуссю, але дзесяцігоддзямі не маглі вярнуцца дадому, калі межы нарэшце адкрыліся, калі беларуская дзяржава падала сігнал, што гатовая вітаць іх, – гаворыць Алена Макоўская ў інтэрв'ю Budzma.org. – Але гэты працэс не быў такім простым, як можа здавацца. Напярэдадні з'езда „Бацькаўшчына", яе кіраўніцтва і актыў багата папрацавалі і з дзяржавай, і з грамадствам.

Кіраўніком Урада ў тыя часы быў Вячаслаў Кебіч, прадстаўнік савецкай наменклатуры, сярод якой даволі моцным быў стэрэатып успрымання беларусаў з далёкага замежжа як калабарантаў і здраднікаў. Перад з'ездам у арганізацыю таксама тэлефанавалі ветэраны Другой сусветнай вайны з перасцярогамі, што на мерапрыемства прыедуць памагатыя фашыстаў".

Паводле Алены Макоўскай, адначасова з працай па фармаванні станоўчай грамадскай думкі пра замежных суайчыннікаў "Бацькаўшына" рабіла значныя намаганні, каб знайсці і звязацца з самімі суродзічамі за мяжой.

"Тады ж яшчэ не было інтэрнэту і сувязь ішла праз ліставанне і тэлефон. Даводзілася ў тым ліку пераконваць і замежных беларусаў, што вяртанне на Радзіму будзе бяспечным, бо людзі доўгі час пазбягалі любога кантакту з папярэдняй, савецкай сістэмай. Суродзічы з замежжа мелі шчырую занепакоенасць, наколькі дэмакратычныя пераўтварэнні, якія адбываліся ў краіне, будуць незваротнымі.

Нягледзячы на ўсе засцярогі з абодвух бакоў, падзея адбылася. З'езд праходзіў у вельмі ўзнёслай і ўрачыстай атмасферы, у атмасферы еднасці. Афіцыйнае прызнанне краінай сваёй дыяспары адбылося. Тады здавалася, што гэта будзе пачаткам шляху наперад, бо з'езд даў беларусам замежжа вялікую матывацыю развіваць і будаваць супрацоўніцтва з грамадскімі, палітычнымі сіламі і дзяржавай.

Нездарма тыя часы былі перыядам вялікага энтузіязму і надзей на тое, што Беларусь стане свабоднай, незалежнай і дэмакратычнай дзяржавай, зможа адрадзіць сваю мову і культуру і нарэшце "зойме свой пачэсны пасад між народамі", – зазначае Алена Макоўская.



У прэзідыўме Першага з'езда (злева направа) Васіль Быкаў, Станіслаў Шушкевіч, Ганна Сурмач

**Ганна Сурмач**, старшыня Рабочай групы па падрыхтоўцы З'езда, у інтэрв'ю Інфармацыйнаму цэнтру ЗБС у 2018 годзе казала: "Атрымалася галоўнае – ідэя аб'яднання беларускай нацыі ў межах сусвету пачала ўвасабляцца, стала неад'емнай часткай сучаснай гісторыі краіны".

"Што не ажыццявілася, дык гэта тое, пра што мы марылі і дзеля чаго трэба было аб'ядноўвацца. Мы пакуль што не маем беларускай па духу ўлады, маем незалежнасць дэ-юрэ, а дэ-факта – па-ранейшаму залежым ад суседняй Расеі. Мы не маем дэмакратыі і свабоды ў Беларусі, дзе не забяспечваюцца элементарныя правы чалавека – правa на свабоду выбараў, свабоду голасу, на эканамічную свабоду. Па ўсіх гэтых прычынах Беларусь для сваіх сыноў і дачок не ёсць той Бацькаўшчынай, якая клапоціцца пра сваіх дзяцей", – сказала Ганна Сурмач.

**Янка Запруднік** (1926 – 2022, ЗША, Нью-Ёрк), у 2018 годзе казаў: "У гадах 60–70-х ды пачатку 80-х нарастала й замацоўвалася перакананне, што Беларусі (са сваякамі ў ёй) я так і не пабачу".

"Нейкія змены" да лепшага ў сферы роднай мовы, агульна беручы, адбыліся й адбываюцца (прыкладам, у публікацыі разнастайных кніг), але боль у сэрцы застаўся, бо ў дзялянцы школьніцтва зруху не адбылося. Паўтараю словы, сказаныя на Першым з'ездзе: "Дзеці і далей не здольныя разумець мову сваіх дзядоў" (…) Дыскрымінацыя й знявага роднай мовы навідавоку і ў афіцыйнай сферы, пачынаючы ад кіраўніка дзяржавы праз усе ступені да нізавых бюракратаў", – падкрэсліваў Янка Запруднік.

Па заканчэнні Першага з'езда Янка Запруднік казаў: "Сёння адбылося нешта большае, чым прынцце рэзалюцый. Сёння адбыўся творчы акт новага палітычнага значэння. Гэта здольнасць наша збірацца разам, не зважаючы на ўсе спрэчкі, дае найбольшую гарантыю таго, што мы на правільным шляху, хаця няпростым, які нярэдка ідзе пад гару. Але мы бачым кірунак, перспектыву, ведаем, што выйдзем на раўніну і тады будзе лягчэй".

## Высновы

Першы з'езд беларусаў свету стаў першым рэальным крокам і вялікім прарывам у справе кансалідацыі беларускай нацыі.

Значасць Першага з'езда беларусаў свету цяжка пераацаніць. "У найноўшай гісторыі нашай краіны месца Першага з'езда беларусаў свету знаходзіцца ў адным шэрагу з атрыманнем незалежнасці і аднаўленнем забароненай нацыянальнай сімволікі", – гаворыцца ў колішнім артыкуле ЗБС "Бацькаўшчына".

Па выніках з'езда Савет міністраў зацвердзіў Дзяржаўную праграму "Беларусы ў свеце" і стварыў Каардынацыйны савет па справах беларускай дыяспары пры ўрадзе.

І хаця не спраўдзіліся аптымістычныя спадзевы на тое, што дзяржава надалей будзе толькі паскараць развіццё супрацоўніцтва з беларускім замежжам, распрацаваны ЗБС "Бацькаўшчына" "Закон аб беларусах замежжа", які надзяляе прадстаўнікоў беларускай дыяспары юрыдычным статусам, праз дваццаць гадоў усё ж такі быў прыняты.

Ідэі Першага з'езда беларусаў свету, як бачым у 2023-м, нікольکі не згубілі актуальнасць. Увосень 2021 года Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" было ліквідаванае. Нацыянальная сімволіка перастала быць дзяржаўнай яшчэ ў 1995-м, а пасля 2020-га за яе выкарыстанне можна атрымаць турэмны тэрмін, незалежнасць – ізноў пад пагрозай.

Рыгор Сапежынскі, budzma.org

Пры падрыхтоўцы артыкула выкарыстаныя матэрыялы артыкула Дзяніса Марціновіча з сайта праекта 90s.by



Пасяджэнне дэлегатаў Першага з'езда беларусаў свету

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# У НЬЮ-ЁРКУ ПРАЙШЛА ПРЭЗЕНТАЦЫЯ КНІГІ "ВЫБРАНАЕ" МІХАСЯ КАВЫЛЯ

У грамадскай зале Кафедральнага сабора БАПЦ Кірылы Тураўскага ў Нью-Ёрку прайшла прэзентацыя кнігі з "Бібліятэкі Бацькаўшчыны" – "Выбранае" беларускага паэта і празаіка Міхася Кавыля (1915-2017).



Арганізатарамі сустрэчы, якая прайшла 4 чэрвеня, выступілі Беларуская фундацыя Крачэўскага, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва (БІНіМ), парафія сабору і BAZA.

Кніга паэта-эмігранта – першая пасля амаль трыццацігадовага перапынку выдання творчай спадчыны аўтара. У ёй акрамя шчымлівых і пяшчотных вершаў, прасякнутых любоўю да Бацькаўшчыны, ёсць пераклады, публіцыстыка і ўспаміны аўтара.

Кавыль быў удзельнікам беларускага літаратурнага руху канца 1920-х – пачатку 1930-х. Як і шмат хто з ягоных сяброў, ён быў рэпрэсаваны і адбываў свой тэрмін зняволення на Далёкім Усходзе. Аднак праз пэўны час паэт змог вярнуцца на Бацькаўшчыну, каб зноў пакінуць яе ў 1944-м годзе ўжо назаўсёды.

Наталля Гардзіенка – гісторык і архівіст, якая завітала ў Нью-Ёрк з Літвы, калі прадстаўляла Міхася Кавыля, звярнула ўвагу прысутных на адлюстраванне пісьменнікам пакручастага лёсу беларускага дзеяча XX стагоддзя.

"Для мяне вельмі дзіўна, што кніга пабачыла свет толькі ў гэтым годзе, бо гэтая асоба вельмі знакавая для беларускай эміграцыі. На вершы Міхася Кавыля пісалі музыку і спявалі песні. Але так сталася, што ад 1990 года пасля друку ягонай кнігі ў ЗША, у Беларусі ён не меў друку. Як паэт і творца Міхась Кавыль быў малавядомы на Бацькаўшчыне. З другога боку, тое, што гэтая кніга выходзіць толькі цяпер, адлюстроўвае жыццё, багатае на падзеі і зломы для беларускага эмігранта пасляваеннай хвалі", – зазначыла Наталля Гардзіенка.

Лявон Юрэвіч – літаратуразнаўца і архівіст Нью-Ёркскай публічнай бібліятэкі, які з'яўляецца ўкладальнікам кнігі, зазначыў, што яна рыхтавалася да друку ў Беларусі. Таму прозвішча Натальлі Гардзіенкі, якая таксама з'яўляецца ўкладальніцай, у ёй не фігуруе. Але праз пераслед і падзей 2020 года сталася так, што кніга пабачыла свет у Беластоку.

"Макет кнігі мы не змянялі. Ён такі ж, які планаваўся да друку ў Беларусі. Кніга выдадзена ў серыі "Спадчына: агледзіны", якая заснавана ў 2017 годзе. У гэтай серыі друкуюцца знакавыя асобы пра якіх мала вядома ў Беларусі, але якія шмат зрабілі для беларускай справы на эміграцыі", – распавёў літаратуразнаўца.

Вядучы імпрэзы Міхась Чаропка ўзгадаў і іншых творцаў эміграцыі – Наталлю Арсенневу, Уладзімера Дудзіцкага, Янку Юхнаўца ў межах месяца нацыянальнай спадчыны эмігрантаў.

Ганна Сурмач, дзяячка Рады БНР, звярнула ўвагу на ўзбагачэнне нацыянальнай спадчыны беларускімі аўтарамі, навукоўцамі, грамадскімі дзеячамі.

"Вядома, што цяпер неспрыяльны час, але гэтая спадчына павінна трапіць у Беларусь і стаць вялікім укладам у развіццё беларускай культуры", – падкрэсліла Ганна Сурмач.

Пасля прадстаўлення кнігі і аўтара ў грамадскай зале можна было пазадаваць укладальнікам пытанні, абмяняцца думкамі за кавай з яблычным пірагом і прысмакамі.

Укладальнікі шчодра падпісвалі кнігу ўсім ахвотным.

Кніга Міхася Кавыля "Выбранае" пабачыла свет дзякуючы фундацыі Крачэўскага (Нью-Ёрк).

**Алесь Пазняк, bielarus.info**

навіны

# У ВАРШАВЕ АДБУДЗЕЦЦА І КАНГРЭС БЕЛАРУСКАЙ КУЛЬТУРЫ Ў ЭМІГРАЦЫІ

15-17 верасня 2023 года Інстытут беларускай культуры арганізуе ў Варшаве Першы Кангрэс беларускай культуры ў эміграцыі.

Адной з галоўных мэтаў Кангрэса з'яўляецца пошук і стварэнне ўмоў для развіцця беларускай культуры і захавання культурнай спадчыны Беларусі ва ўмовах вымушанай эміграцыі.

Арганізатары разглядаюць Кангрэс культуры, як заканамерны вынік папярэдняй працы беларускіх культурных дзеячаў і арганізацый, якія на працягу апошніх некалькіх гадоў працягваюць сваю дзейнасць па-за Радзімай; як важны крок на шляху да стварэння структурнай, сістэмнай і эфектыўнай мадэлі супрацоўніцтва і ўзаемадзеяння, як унутры беларускай, так і з польскай культурнай супольнасцю.

Першы Кангрэс беларускай культуры ў эміграцыі накіраваны на:

• пашырэнне ведаў пра знаходжанне і дзейнасць асобных беларускіх творцаў і арганізацый у эміграцыі, стварэнне агульнай кантактанай базы і лічбавай пляцоўкі для дапамогі ў арганізацыі культурных працэсаў і знаходжанню патрэбных кантактаў і інфармацыі;

• інфармаванне аб актуальнай сітуацыі з рэпрэсіямі беларускіх творцаў і культурных арганізацый у Беларусі;

• наладжванне сувязяў і супрацы паміж беларускімі і польскімі творцамі і культурнымі арганізацыямі;

• аб'яднанне беларускай культурнай супольнасці у Польшчы, стварэнне новых творчых праектаў, дапамога ў іх каардынацыі, выпрацоўванне агульнай стратэгіі ў дасягненні агульных мэтаў;

• папулярызацыя беларускага мастацтва ў краінах Еўрасаюза;

• пошук шляхоў для стварэння і рэалізацыі праектаў, накіраваных на падтрымку дзеячаў культуры і іх дзейнасці, якія знаходзяцца ў Беларусі і за яе межамі;

• будаванне культурных мастоў і супрацы з польскімі арганізацыямі культуры і іх прадстаўнікамі.

Арганізатарам Кангрэса з'яўляецца Інстытут беларускай культуры. Да ўдзелу ў Кангрэсе запрашаюцца дзеячы беларускай культуры, прадстаўнікі беларускіх арганізацый і лідары суполак, якія займаюцца культурай, творцы і прадстаўнікі польскага культурнага асяроддзя, польскіх культурных устаноў, прадстаўнікі еўрапейскіх арганізацый і фондаў.

**Падрабязнасці чытайце на zbsb.info**

навіны

# ЗМІЦЕР ДАШКЕВІЧ НЕ ВЫЙШАЎ НА ВОЛЮ

Змітра Дашкевіча, які цалкам адбыў свой тэрмін зняволення, не вызвалілі, а перавялі ў следчы ізалятар у Жодзіна. Пра гэта паведаміла яго жонка Наста Дашкевіч.

"Я не ведаю, навошта яшчэ ўсе гэтыя прыгоды. Навошта пазбаўляць чатырох дзяцей таты. Мы ціха адседзелі свой цяжкі тэрмін, спаўна сплацілі сваё. І аддалі нават болей, чым маглі", – напісала яна ў Facebook.

Нагадаем, што Зміцер адбываў пакаранне за ўдзел у адным з маршаў пратэста ў калоніі №14 у Навасадах. Аднак у дзень сканчэння тэрміну зняволення яго зноў арыштавалі і цяпер інкрымінуюць артыкул 411 Крымінальнага кодэкса ("Непадпарадкаванне патрабаванням адміністрацыі папраўчай установы"). Гэты артыкул Крымінальнага кодэкса давале асудзіць на год, альбо нават на два гады зняволення.

У Змітра и Насты чацвёра малалетніх дзяцей.

nv-online.info



# ВІЛЕНСКІ БЕЛАРУСКІ МУЗЕЙ ІМЯ ІВАНА ЛУЦКЕВІЧА ВЫКЛАЎ У СЕЦІВА ЎЛАСНЫ АРХІЎ



"Валанцёры нашага музея з гонарам распраўляюць стомленыя за апошнія пару тыдняў плечы – яны закончылі першасную апрацоўку архіву музея, і азнаёміцца з яе пладамі можа кожная ды кожны на нашай старонцы ў archive.org. Даследчыкам, студэнтам і іншым цікаўным людзям працаваць з нашым архівам стала значна лягчэй – карыстайцеся на добры спажытак", – паведамляецца на старонцы музея імя Івана Луцкевіча.

Беларускі музей імя Івана Луцкевіча, зарэгістраваны ў Літоўскай Рэспубліцы ў 2001 годзе, займаецца зборам і захоўваннем прадметаў даўніны, рукапісаў, дакументаў, фатаграфій і іншых сведчанняў жыцця і дзейнасці беларусаў розных пакаленняў. Ён працягвае традыцыі музея, створанага Іванам Луцкевічам, які дзейнічаў у Вільні з 1921 і да канца 1944-га.

Ідэяй Івана Луцкевіча было сабраць матэрыялы, якія зрабілі б магчымымі даследаванні матэрыяльнай і духоўнай культуры беларусаў – перш за ўсё народнай, беларускай гісторыі – з асаблівым акцэнтам на перыяд Вялікага Княства Літоўскага.

У канцы 1944 года музей быў ліквідаваны. Калекцыі былі падзелены супольнай камісіяй паміж Літоўскай савецкай рэспублікай і БССР. З боку БССР у камісіі былі асобы, не звязаныя з Беларуссю, якія адбіралі толькі экспанаты на беларускай мове, а ўсё звязанае з ВКЛ і найбольш важныя экспанаты засталіся Літве ці былі вывезены ў Маскву.

Паводле reform.by,
падрабязнасці шукайце
на zbsb.info

# ЗАСНАВАЛЬНІКІ "БЕЛАРУСКАГА СВАБОДНАГА ТЭАТРА" ЎДАСТОЕНЫ ЗВАННЯ ОРДЭНА БРЫТАНСКАЙ ІМПЕРЫІ

Заснавальнікі "Беларускага свабоднага тэатра" Мікалай Халезін і Наталля Каляда ўдастоены звання членаў Ордэна Брытанскай імперыі за заслугі перад тэатрам у гонар дня нараджэння караля ў 2023 годзе. Пра гэта паведамляе Мікалай Халезін на сваёй старонцы ў фэйсбуку.

"Неверагодна кранальна быць удастоенымі такога гонару ад караля. Больш за дзесяць гадоў таму Вялікабрытанія дала нам палітычны прытулак і стала нашым другім домам. Гэтая ўзнагарода прызнае нашы дасягненні ў свеце тэатра, мастацкае выказванне нашай пастаяннай барацьбы за правы і свабоды чалавека, якая забяспечваецца дэмакратыяй, якую мы цяпер называем домам. Як мастакі і як грамадзяне, мы лічым, што сёння як ніколі важна пакласці канец вайне на Украіне і дыктатуры ў Беларусі, каб гарантаваць бяспеку і стабільнасць Еўропы", – выказалася наконт узнагароды Наталля Каляда.

"Мы нястомна змагаемся за свабоду самавыяўлення і права займацца мастацтвам, бо яно фармуе тое, чым мы з'яўляемся як людзі і як нацыі. Мы жывём у тыя часы, калі часам здаецца, што мастацтва і тэатр больш не маюць значэння.

Такі гонар яшчэ раз падкрэслівае сутнасць таго, чаму мы робім тое, што робім; і мы падзяляем яе з усімі, хто калі-небудзь быў і працягвае з'яўляцца часткай нашага творчага працэсу – як на сцэне, так і за яе межамі", – напісаў у фэйсбуку Мікалай Халезін.

Ордэн Брытанскай імперыі – рыцарскі ордэн, якім узнагароджваюцца за ўклад у мастацтва і навуку, працу з дабрачыннымі і сацыяльнымі арганізацыямі, а таксама за дзяржаўную службу. Рыцарскі ордэн быў створаны брытанскім каралём Георгам V 4 чэрвеня 1917 года. Ордэн складаецца з пяці класаў грамадзянскага і ваеннага падраздзяленняў.

budzma.org



**in memoriam**

# МІРАСЛАЎ ЛАЗОЎСКІ (1973–2023)

Першы з 1952 года кавалер Ордэна Жалезнага рыцара, беларускі патрыёт, грамадскі дзеяч, вояр, добраахвотнік Палка імя Каліноўскага.



Сёння споўнілася б 50 гадоў Міраславу Лазоўскаму (пазыўны "Мыш"), які загінуў 16 траўня 2023 года ў баі пад Бахмутам. Міраслаў кіраваў эвакуацыяй параненых байцоў, прыкрываў іх, выносіў зброю. Вядома, што ён ішоў апошнім у групе і зусім трохі не дайшоў да каманднa-назіральнага пункту. Міраслаў змагаўся за свабоду Украіны дзеля будучыні Беларусі, бяспекі й міру ва ўсім нашым рэгіёне.

Міраслаў Уладзіміравіч Лазоўскі нарадзіўся 10 ліпеня 1973 годзе ў Менску. Ягоная маці родам са Слуцка, бацька – з-пад Магілёва. Міраслаў атрымаў інжынерную адукацыю ў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі.

З дзяцінства Міраслаў шмат чытаў і цікавіўся гісторыяй, у прыватнасці вайсковай, захапляўся напалеонікай. Маючы мастацкія таленты, маляваў на гістарычную тэматыку, адліваў фігуркі воінаў з волава, рабіў карыкатуры і шаржы для газеты "Свабода", аднаго з галоўных беларускіх недзяржаўных выданняў у дзевяностыя гады.

Праз сваю зацікаўленасць гісторыяй Лазоўскі ў пачатку 90-х гадоў далучыўся да беларускага патрыятычнага руху. У 1995 годзе ён увайшоў у Беларускае згуртаванне вайскоўцаў. З моладзевага крыла Згуртавання з часам паўстала арганізацыя "Белы легіён", якая займалася выхаваннем моладзі ў спартовым і патрыятычным духу. Сярод іншага, яе чальцы таксама ахоўвалі дэманстрацыі дэмакратычнай апазіцыі з часоў прыходу да ўлады Лукашэнкі. Пазней арганізацыя была забароненая рэжымам.

Дасведчанасць, высокая дысцыплінаванасць, камунікабельнасць і лідарскія якасці зрабілі Міраслава не толькі адным з лідараў "Белага легіёну", але і "бацькам" для шматлікіх хлопцаў, якія траплялі ў арганізацыю. Міраслаў, Мірык – як звалі яго блізкія і паплечнікі – усе свае сілы і час аддаваў вайскова-патрыятычнаму выхаванню беларускай моладзі. Вучыў гісторыі Беларусі, выхоўваў моладзь патрыётамі, фізічна і псіхалагічна здольнымі бараніць сваю Радзіму.

Неаднойчы Міраслаў за сваю дзейнасць быў пераследаваны рэжымам Лукашэнкі. Яго затрымлівалі на мітынгах, арыштоўвалі. У сакавіку 2000 года Міраслаў быў першым асуджаным паводле незаконнага артыкулу 167.10 КаАП Беларусі ("Дзейнасьць ад імя незарэгістраваных ці не перарэгістраваных палітычных партый, прафесійных саюзаў ці іншых грамадскіх аб'яднанняў"). У 2008 годзе на яго спрабавалі ўсклаcці адказнасць за выбухі ў Менску падчас канцэрту з удзелам Лукашэнкі. У 2017 годзе супраць яго і былых чальцоў "Белага легіёну" КДБ сфабрыкаваў справу нібыта за спробу дзяржаўнага перавароту ("Справа патрыётаў"), але яна таксама рассыпалася праз адсутнасць доказаў і шырокі грамадскі розгалас.

Будучы па сваёй натуры сціплым чалавекам, Міраслаў ніколі не выносіў на публіку свае дасягненні, не паведамляў пра ціск, рэпрэсіі ці пагрозы ў свой адрас. Справу свайго жыцця – пабудову незалежнай свабоднай Беларусі – ён заўжды рабіў спакойна і абачліва, не прыцягваючы да сябе залішняй увагі.

Маючы энцыклапедычныя веды па вайсковай гісторыі Беларусі і Вялікага Княства Літоўскага, Міраслаў Лазоўскі бескаштоўна кансультаваў гісторыкаў і музейных экспертаў (у тым ліку з Нацыянальнага гістарычнага музея Беларусі) адносна выстаў і асобных прадметаў. За свае грошы ён набываў гістарычныя артэфакты і перадаваў іх у музеі, бо быў перакананы, што падобныя рэліквіі маюць належаць усёй нацыі, выхоўваць і фармаваць яе.

Кожнае лета Міраслаў удзельнічаў у археалагічных экспедыцыях, у летніках па прыборцы колішніх шляхецкіх маёнткаў. Ён быў адным са стваральнікаў кніжнай серыі "Беларусь у войнах", прысвечанай айчыннай вайсковай гісторыі. Першая кніга гэтай серыі была прысвечаная вызвольнаму паўстанню 1863 года. Займаўся гістарычным фехтаваннем і гістарычнай рэканструкцыяй эпохі Вялікага Княства Літоўскага 16-17 стст.

Да 2020 года Міраслаў актыўна супрацоўнічаў са Згуртаваннем беларусаў свету "Бацькаўшчына", дапамагаючы ў арганізацыі З'ездаў беларусаў свету, а таксама з беларускімі пісьменнікамі і гісторыкамі: працаваў кнігавыдаўцом, арганізоўваў кніжныя прэзентацыі па ўсёй Беларусі і за яе межамі, уласнаручна ілюстраваў кнігі. Заўжды рупіўся, каб беларускія выданні даходзілі да чытача насуперак дзяржаўнай палітыцы татальнай русіфікацыі.

У 2021 годзе, з пачаткам буйной хвалі палітычных рэпрэсій у Беларусі, Міраслаў быў вымушаны з'ехаць з краіны, жыў ва Украіне, пад Кіевам. Пасля пачатку поўнамаштабнай вайны 24 лютага 2022 года ён без ваганняў далучыўся да супраціву расейскай агрэсіі. Загінуў героем.

Міраслаў Лазоўскі ўзнагароджаны:

• Заахвочвальнай адзнакай Галоўнага ўпраўлення выведкі Міністэрства абароны Украіны "За мужнасць пры выкананні спецзаданняў" (02.12.2022, № 2845),

• Медалём Беларускай Народнай Рэспублікі за баявыя заслугі (09.03.2023, № 004),

• Ордэнам "За мужнасць III ступені" (указ Прэзідэнта Украіны ад 14.06.2023, № 387165), пасмяротна,

• Медалём "Гонар і Годнасць" Аб'яднанага пераходнага кабінета Беларусі (09.06.2023, № 1), пасмяротна,

• Тытулам кавалера Ордэна Жалезнага рыцара (з кавалерскім крыжом) ад Рады Беларускай Народнай Рэспублікі (25.06.2023), пасмяротна.

Для Міраслава Беларусь заўсёды была на першым месцы. Сёння немагчыма вымерыць ягоны ўнёсак у беларускі нацыянальны рух: сваю справу ён рабіў грунтоўна, маштабна і непублічна.

Міраслаў Лазоўскі назаўжды застанецца эталонам лідара, маральным аўтарытэтам, сімвалам супраціву і "Белага легіёну", надзейным сябрам, паплечнікам і настаўнікам.

radabnr.org

## Беларускі каляндар памятных дат на ліпень 2023 года

**1 ліпеня**

- 430 гадоў таму, у 1593-м, нарадзіўся Альбрыхт Станіслаў Радзівіл, гісторык. Памёр у 1656-м.

- 90 гадоў таму, у 1938-м, расстраляны Іван Цвікевіч, дзеяч навукі і культуры.

**2 ліпеня**

- 35 гадоў таму, у 1988-м, памёр Часлаў Ханяўка, дзеяч эміграцыі ў ЗША.

**3 ліпеня**

- 105 гадоў таму, у 1918-м, нарадзіўся Рыгор Бярозкін, літаратар. Памёр у 1981-м.

**4 ліпеня**

- 35 гадоў таму, у 1988-м, у Вільні створаны беларускі клуб „Сябрына“.

**5 ліпеня**

- 205 гадоў таму, у 1818-м, нарадзіўся Антон Яленскі, адзін з кіраўнікоў паўстання 1863–1864 гг. Памёр у 1874-м.

**8 ліпеня**

- 30 гадоў таму, у 1993-м, у Мінску пачаўся Першы з'езд беларусаў свету.

**9 ліпеня**

- 160 гадоў таму, у 1863-м, павешаны Зыгмунт Серакоўскі, адзін з кіраўнікоў вызваленчага паўстання.

**12 ліпеня**

- 180 гадоў таму, у 1843-м, памёр Ігнат Даніловіч, даследчык гісторыі права ВКЛ.

**13 ліпеня**

- 155 гадоў таму, у 1868-м, памёр Канстанцін Тышкевіч, адзін з заснавальнікаў беларускай навуковай археалогіі.

- 30 гадоў таму, у 1993-м, у Магілёве прайшоў першы фестываль хрысціянскай музыкі „Магутны Божа“.

**14 ліпеня**

- 110 гадоў таму, у 1913-м, у Вільні заснавана Беларускае выдавецкае таварыства.

- 25 гадоў таму, у 1998-м, памёр Леанід Кароль, грамадскі дзеяч.

**17 ліпеня**

- 80 гадоў таму, у 1943-м, загінуў Сяргей Дарожны (сапр. Серада), пісьменнік.

**26 ліпеня**

- 90 гадоў таму, у 1933-м, памёр Францішак Грынкевіч, рэлігійны і культурны дзеяч.

- 45 гадоў таму, у 1978-м, памёр Аляксей Васіленя, дзеяч беларускай эміграцыі ў Нямеччыне і Аўстраліі.

- 30 гадоў таму, у 1993-м, уведзена нацыянальная валюта – беларускі рубель.

**27 ліпеня**

- 35 гадоў таму, у 1988-м, памёр Серафім Татарын, грамадска-культурны дзеяч.

**29 ліпеня**

- 115 гадоў таму, у 1908-м, нарадзіўся Юрка Лявонны (сапр. Леанід Юркевіч), паэт. Расстраляны ў 1937-м.

**Беларусы ў свеце**
№ 6 (253), чэрвень 2023
Інфармацыйны бюлетэнь
Супольнасць беларусаў
свету "Бацькаўшчына"

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Адказныя за нумар –
Н. Шыдлоўская,
А. Макоўская

Наклад 250 асобнікаў

zbsb.info e-mail: zbsb.minsk@gmail.com